Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 770.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Серада, 15 ліпеня 1998 г. № 75 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Прафсаюзны мітынг

**Пяць беларускіх прамысловых прафсаюзаў правядуць сёння ў Мінску мітынг пратэсту супраць падзення жыццёвага ўзроўню насельніцтва.**

Акцыя, на якую арганізатары плануюць сабраць 10 тысячаў чалавек, пройдзе з 16:30 да 18 гадзінаў на пляцоўцы каля стадыёна «Трактар». Калоны рабочых накіруюцца туды ад прахадных сваіх заводаў. У мітынгу возьмуць удзел дэлегацыі працоўных з іншых рэгіёнаў краіны. Акцыю прамысловых прафсаюзаў падтрымала Сацыял-дэмакратычная партыя Народная Грамада.

Першапачаткова планавалася, што падобныя акцыі пройдуць таксама ў Гомелі і Гродне, аднак мясцовыя ўлады не далі дазволу. Як нам паведаміў адзін з арганізатараў мітынгу старшыня прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў, прафсаюзы ў адстойванні сваіх правоў настроеныя вельмі рашуча. Калі ўлады не прыслухаюцца да патрабаванняў рабочых, то, па словах Бухвостава, з кастрычніка прафсаюзы пачнуць агульнанацыянальную акцыю пратэсту.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Турма – не бальніца

*Ці выпусцяць Старавойтава з-пад варты?*

Вось ужо і дзяржаўныя дактары схіляюцца да таго, каб выпусціць на волю славутага вязня «амерыканкі». Двойчы героя сацыялістычнай працы Васіля Старавойтава зноў абследавалі медыкі. Мэта агляду — вырашыць, ці можна старога чалавека і далей трымаць у следчым ізалятары КДБ, дзе ён правёў ужо больш васьмі месяцаў.

Як мы ўжо паведамлялі, месяц таму Старавойтава аглядалі незалежныя эксперты. Яны прыйшлі да высновы, што далей утрымліваць яго за кратамі небяспечна для жыцця. У заключэнні дактароў указвалася, што Старавойтаў мае цэлы «букет» вельмі сур'ёзных захворванняў і яму патрабуецца тэрміновае лячэнне.

Аднак прыслухацца да незалежных экспертаў следчыя, якія вядуць справу Старавойтава, не спяшаліся. Вырашылі прызначыць новую экспертызу. На гэты раз у склад камісіі ўвайшлі медыкі, падабраныя следчымі. Нарэшце яны сустрэліся са Старавойтавым і абследавалі яго. Канчатковы вердыкт гэтай экспертызы пакуль афіцыйна не паведамляецца, але, па нашых звестках, ён у многім дубліруе заключэнне незалежных экспертаў. Абедзве камісіі прыйшлі да высновы, што Старавойтаву неабходна тэрміновае лячэнне ў стацыянары. Дык ці выпусцяць 74-гадовага дзеда на волю хаця б пад падпіску аб нявыездзе?

Па звестках, сам Васіль Старавойтаў у гэта ўжо не верыць. *«Ён мяне тут згноіць, але жывым не выпусціць»,* — казаў былы старшыня «Рассвета» сваякам падчас апошняга спатканя ў турме.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**






# Праславіўся

*Такога ў Еўропе яшчэ не было*

Міністры замежных спраў 15 краінаў Еўрапейскага Саюза на пасяджэнні ў панядзелак зацвердзілі візавыя санкцыі супраць вышэйшых беларускіх чыноўнікаў *(спіс мы публікуем на стар.2-3)*. У прэамбуле да дакумента канфлікт у дыпламатычным комплексе «Драздны» (адключэнне вады і электрычнасці ў пасольскіх рэзідэнцыях, перашкоды для ўезду дыпламатычнага транспарту, знаходжанне на тэрыторыі рэзідэнцыі староннiх асобаў без ведама паслоў і г.д.) характарызуецца як грубае парушэнне Венскай канвенцыі. *«Дзеянні беларускіх уладаў супярэчаць прынцыпам дружалюбных адносінаў паміж дзяржавамі»*, адзначаецца ў рашэнні Савета міністраў ЕС.

Разам з тым у дакуменце падкрэсліваецца, што *«Еўрапейскі Саюз пацвярджае сваю зацікаўленасць у працягу канструктыўнага дыялогу з Беларуссю»* і будзе *«ўважліва сачыць за развіццём сітуацыі»*. *«Калі ўзнікне такая неабходнасць, будуць прынятыя далейшыя меры»*, канстатуюць міністры замежных справаў ЕС.

Каментуючы гэтае рашэнне, дэпутат Еўрапарламента, спецыяльны дакладчык па Беларусі Элізабет Шродтэр сказала, што яна поўнасцю падтрымлівае пазіцыю Савета міністраў ЕС. Аднак, на яе думку, гэтыя меры былі прынятыя запозна. *«Грубыя парушэнні правоў чалавека сталі масавай з'явай у Беларусі, і дыктатару Лукашэнку трэба было забараніць уезд у Еўропу яшчэ ў лістападзе 1996 года, пасля так званага рэферэндуму, калі Лукашэнка разагнаў дэмакратычна абраны парламент і груба парушыў усе дэмакратычныя стандарты»,* — заявіла Э.Шродтэр.

Дзесяць краінаў, якія не ўваходзяць у Еўрапейскі Саюз, таксама далучыліся да рашэння ЕС аб увядзенні візавых санкцыяў. Сярод іх — **Балгарыя**, **Кіпр**, **Чэхія**, **Эстонія**, **Венгрыя**, **Румынія**, **Славакія**, **Славенія**, **Ісландыя** і **Нарвегія**. У іх сумеснай заяве гаворыцца, што ўрады гэтых краінаў *«цалкам падзяляюць рашэнне Савета міністраў ЕС»* і абавязваюцца прывесці сваю палітыку ў дачыненні да Беларусі ў адпаведнасць з пазіцыяй Еўрапейскага Саюза.

Беларускі бок у апошні момант спрабаваў дамовіцца, каб Еўрасаюз не зацвярджаў візавыя санкцыі супраць Беларусі. Прэзідэнт Лукашэнка нават накіраваў асабісты ліст на імя міністра замежных справаў Аўстрыі (гэтая краіна цяпер старшынствуе ў ЕС). Аналагічнае пісьмо адправіў таксама Іван Антановіч. Афіцыйны Мінск прасіў не ўводзіць санкцыі і запрашаў прадстаўнікоў ЕС наведаць Беларусь, каб азнаёміцца з сітуацыяй на месцы. Але, як заявіў шэф аўстрыйскага МЗС Вольфган Шусель, лісты Лукашэнкі і Антановіча *«ў значнай ступені супярэчаць адзін аднаму»*.

У прыватнасці, Антановіч запэўнівае, што Беларусь больш не будзе выкарыстоўваць ультыматумы ў дачыненні да дыпламатаў і не кране пячаткі на дзвярах рэзідэнцыяў, якія належаць пасольствам краінаў ЕС. Аднак некаторыя фрагменты паслання, як адзначаюць еўрапейскія палітыкі, *«цяжка зразумець»*. А ліст Лукашэнкі наогул вытрыманы ў такім духу, які нельга назваць міралюбівым. Аўстрыйскі міністр заявіў, што Еўрасаюз мае намер накіраваць у Мінск у якасці свайго прадстаўніка на перамовах з беларускім кіраўніцтвам нямецкага пасла ў Беларусі Хорста Вінкельмана.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Грамадзянам візы выдаюць

**Парадак выдачы візаў у краіны Еўрапейскага Саюза для грамадзянаў Беларусі не зменіцца. Толькі дзяржаўныя служачыя, якія трапілі ў вядомы «чорны спіс», не могуць разлічваць на ўязныя візы.**

Пра гэта нам паведамілі ў консульскім аддзеле пасольства Германіі ў Мінску. Як і раней, падаваць дакументы на атрыманне візы могуць усе жадаючыя. Тэрмін іх разгляду не памяняўся. Без чаргі афармляюцца дакументы «чарнобыльскім дзецям», якія накіроўваюцца на летняе аздараўленне за мяжу. Без пераменаў засталося афармленне паездак у галіне культурнага абмену, спорту і партнёрства гарадоў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## «Газпром» хоча толькі грошай

**Урад Беларусі ў чарговы раз атрымаў тэлеграму з канцэрна «Газпром», у якой расійскі газавы магнат патрабуе неадкладнай сплаты запазычанасці за газ.**

Прычым, як паведаміла ўрадавая крыніца, гэтым разам «Газпром» патрабуе таксама на тры месяцы зняць аплату таварамі і перайсці да разлікаў за прыродны газ выключна грашыма.

Нагадаем, што вясной быў падпісаны двухбаковы пратакол, паводле якога Беларусь абавязалася плаціць за газ у наступнай прапорцыі: 26% — грашыма, 74% — таварамі і паслугамі. Аднак цяпер, калі ў «Газпрома» ўзніклі фінансавыя праблемы, звязаныя са спаганнем падаткаў у дзяржаўны бюджэт, канцэрн не толькі хоча неадкладнай сплаты запазычанасці Беларусі ў памеры 230 млн. долараў ЗША, але і валютных разлікаў за наступныя пастаўкі.

*БелаПАН*

## Рэдакцыя раздае падушкі

**Рэдакцыя раённай газеты «Слонімскі веснік», каб заахвоціць падпісчыкаў, прыдумала надта арыгінальную латарэю.**

Спонсарам стала мясцовая (дарэчы, адзіная ў краіне) фабрыка пер'е-пухавых вырабаў. На 2 тысячы падпісчыкаў выпала, праўда, усяго 14 прызоў, але тыя, хто выйграў, былі задаволеныя: яны атрымалі пуховыя падушкі.

Такую латарэю рэдакцыя праводзіць ужо трэці раз. Раней падпісчыкаў узнагароджвалі коўдрамі фабрыкі «Тэкстыльшчык» і каўбасамі мясцовага мясакамбіната. Чытачы цяпер чакаюць, калі ўжо надыдзе чарга Слонімскага віназавода. У гэтым разе колькасць мужчын сярод падпісчыкаў павінна істотна павялічыцца.

Пакуль жа, зважаючы на выйгрышны асартымент, у латарэю гуляюць пераважна жанчыны.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

# Вольны эфір з Польшчы

**У панядзелак у польскіх сродках масавай інфармацыі з'явілася паведамленне, што ў хуткім часе з Беластока пачне вяшчаць радыё «Вольная Беларусь».**

Як паведаміла *Gazeta Wyborcza*, рэдакцыйны калектыў новага радыё размесціцца ў памяшканнях Адукацыйнага цэнтра «Польшча—Беларусь» у Беластоку. *«Паколькі ў Беларусі фактычна няма незалежных электронных сродкаў масавай інфармацыі, такое радыё стала б для беларусаў крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі аб падзеях у краіне»,* — лічыць дырэктар цэнтра Яўген Вапа. Фінансаваць праект будуць ЗША і Еўрапейскі Саюз, і з урадавых крыніцаў у Вашынгтоне вядома, што рашэнне аб выдзяленні грошай на радыё «Вольная Беларусь» было прынятае некалькі тыдняў таму.

Увогуле, саму ідэю стварэння радыё «Вольная Беларусь» доўгі час трымалі ў сакрэце — перш за ўсё таму, каб не выклікаць рэпрэсіі супраць журналістаў з боку беларускіх уладаў. Зрэшты, і да сённяшняга дня творчы калектыў «Вольнай Беларусі» не афішуе сябе, польская прэса не паведамляе ніводнага імені. Аднак, са словаў Ежы Марэка Навакоўскага, дарадцы прэм'ер-міністра Бузка па пытаннях замежнай палітыкі, *«ствараць радыё будуць самі беларусы, польскі ўрад не будзе мець да гэтага ніякага дачынення»*. Пра тое, што ўрад Польшчы не мае нічога агульнага з радыё «Вольная Беларусь», заявіў і міністр замежных справаў Польшчы Б.Гермэк.

У каментары для *Gazety Wyborczej* Станіслаў Шушкевіч сказаў: *«Калі новае радыё будзе працаваць так прафесійна, як руская служба Радыё Свабода, — гэта несумненна паспрые развіццю дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Аднак гэта павінен быць погляд на сучасныя беларускія падзеі знутры краіны. Будзе кепска, калі радыё стане даваць парады з Захаду»,* — засцерагае С.Шушкевіч. Зрэшты, ён сказаў, што сустракаўся з некаторымі будучымі супрацоўнікамі радыё і пераканаўся: яны добра разумеюць, на што ідуць, чым рызыкуюць і ў чым заключаецца іхняя задача. На думку Шушкевіча, рэалізацыя праекта не пагоршыць адносіны паміж Мінскам і Варшавай, бо *«горш ужо проста не можа быць»*.

Плануецца, што напачатку радыё «Вольная Беларусь» будзе мець 8 гадзінаў эфіру ў дзень. Аснову творчага калектыву складуць журналісты, якія сёння працуюць у беларускай рэдакцыі 5-й праграмы польскага радыё, а таксама некаторыя журналісты з Беларусі. Бюджэт «Вольнай Беларусі», як сцвярджаюць амерыканскія крыніцы, — некалькі мільёнаў долараў, асноўная частка гэтай сумы выдзеленая ўрадам ЗША. Рэшта паступіць з фонду развіцця свабоды слова Савета Еўропы.

Радыё «Вольная Беларусь» будзе працаваць на сярэдніх хвалях. Тэхнічныя магчымасці радыётранслятараў у Беластоку дастатковыя, каб ахапіць практычна ўсю тэрыторыю Беларусі. Дарэчы, канцэрн «Тэлекамунікацыя Польска» паабяцаў, што будзе браць плату з «Вольнай Беларусі» па мінімальных тарыфах.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Беларусь адмаўляецца ад «зайчыка»

**Беларусі пагражае чарговы фінансавы крызіс. Адчайныя намаганні дзяржавы папоўніць казну цвёрдай валютай пагражаюць стабільнасці беларускага рубля.**

Мінулы тыдзень стаў даволі паказальным. Курс долара на міжбанкаўскім рынку істотна падскочыў — з 68.000 да 74.000 безнаяўных рублёў. Курс наяўнай валюты ўжо ўстойліва трымаецца на ўзроўні — 60.000 рублёў за долар. Зрэшты, самае небяспечнае, што гэтыя працэсы адбываюцца ўлетку: звычайна летні перыяд вызначаецца стабільнасцю курсу.

Валюты ў казне амаль не засталося, таму пастаянна шукаюцца новыя метады яе здабыцця. Вышэйзгаданы рост курсу долара абумовілі апошнія рашэнні дзяржавы, перш за ўсё — забарона экспарту за беларускія рублі харчовых тавараў, мэблі, складанабытавой тэхнікі і іншых тавараў, якія карыстаюцца попытам (перш за ўсё ў Расіі).

Атрымліваецца, што беларускі рубель стаў непатрэбны беларускай дзяржаве. І гэта называецца — «праграма стабілізацыі нацыянальнай валюты».

**А.С.**

## Хто ж выкраў дзіцяі?

*Банду схапілі, але хлопчыка не знайшлі*

У Гомелі затрыманая злачынная група, якая ўзяла на сябе адказнасць за выкраданне некалькі месяцаў назад у Маскве 3-месячнага хлопчыка Ягора.

Расійскія тэлеканалы неаднаразова паказвалі сюжэты пра тое, як скралі гэтае дзіця, маці якога не перанесла ўдару лёсу і скончыла жыццё самагубствам. Спробы адшукаць злачынцаў былі безвыніковыя, пакуль на НТВ не прыйшоў ліст з Гомеля, у якім невядомыя абяцалі вярнуць Ягора за 480 тысяч долараў. І вось у Гомелі, на набярэжнай Сажа, падчас перадачы выкупу былі затрыманыя трое злачынцаў — кіраўнік групы, былы камерсант 30-цігадовы А. і двое яго памагатых: маладыя мужчына і жанчына. Аперацыя па затрыманні была праведзеная сумесна гомельскай і маскоўскай міліцыяй.

Нягледзячы на поспех аперацыі, начальнік гомельскага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Ю.Афонін заявіў, што хлопчык Ягор дагэтуль не знойдзены. І хоць яго пошукі на Гомельшчыне будуць працягвацца, вельмі магчыма, што затрыманая банда проста «блефавала» і дачыненне да выкрадання дзіцяці не мае.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Міністэрства абароны передумала

**Сёння завяршаецца прызыў навабранцаў на тэрміновую службу ва Узброеныя сілы.**

Сёлета, у адрозненне ад ранейшых гадоў, прызыў праходзіць у адзін этап. Пра гэта журналістам паведаміў начальнік упраўлення Галоўнага штаба генерал-маёр Міхаіл Каурын. Першапачаткова планавалася правесці прызыў у два этапы — з 22 чэрвеня па 10 ліпеня і з 10 па 20 жніўня (наша газета ў свой час пра гэта паведамляла). Аднак, на думку спецыялістаў, скарачэнне тэрмінаў прызыву дасць эканомію сродкаў, таму міністэрства абароны «ўнесла карэкціроўкі».

Усяго ж гэтым летам на тэрміновую ваенную службу ва Узброеныя сілы рэспублікі прызвана каля 12 тысяч чалавек.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## У Мінску будзе помнік Пушкіну

**У будучым годзе, да 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна, у Мінску плануецца ўстанавіць помнік расійскаму паэту.**

Статую даставяць з Масквы. Гэта сумесны праект урада Масквы, міністэрства культуры Беларусі і Мінскага гарвыканкама.

*БелаПАН*

## Дубко на месцы Вітаўта

**У мінулыя выхадныя вёска Азёры Гродзенскага раёна адзначала сваё 600-годдзе.**

Калісьці яна была нават мястэчкам, а ўпершыню ў пісьмовых крыніцах узгадваецца ў 1398 годзе як уладанне вялікага князя Вітаўта. Гэты год, дарэчы, у біяграфіі Вітаўта цікавы яшчэ дзвюма падзеямі. Ён заключыў дамову з крыжакамі, каб змагацца супраць польскага караля Ягайлы. У тым жа годзе ў гарадзенскім замку здарыўся ўначы пажар, і вялікі князь з жонкай ураваліся толькі дзякуючы таму, што іх разбудзіла ручная малпа.

На свяце ў Азёрах, дарэчы, князь Вітаўт паявіўся зноў. Хадзіў такі дзядзька ў стылізаваных сярэднявечных строях. Праўда, цяпер там новы гаспадар — аднайменным калгасам кіруе А.Дубко, сын старшыні аблвыканкама. Але князь застаўся задаволены: паўсюдна карміні шашлыкамі, а ў лесе рыхалі зубры, якіх нядаўна завеў калгасны старшыня. Адно кепска — увесь час ліў дождж як з цэбра.

Дзеля справядлівасці трэба, аднак, сказаць, што Вітаўт у Азёрах быў не першым. У вёсцы існуюць дзве стаянкі першабытных людзей, адна датуецца 3-м тысячагоддзем да нашай эры, а другая нават 8-м тысячагоддзем да нараджэння Хрыстова.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

КАДРЫ



## Энцыклапедыя пра беларусаў за мяжой

**У хуткім часе будзе падрыхтаванае да друку энцыклапедычнае выданне пра беларускую дыяспару ў свеце.**

Як паведаміў дырэктар Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны прафесар Адам Мальдзіс, у кнізе можна будзе знайсці інфармацыю пра беларусаў асобных краінаў (як суседніх, так і ў далёкім замежжы), а таксама звесткі пра ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі за мяжой, перыядычныя выданні і да т.п. Асобныя артыкулы будуць прысвечаныя выдатным людзям, якія праславілі беларускую зямлю і паспрыялі развіццю іншых культур.

Па словах Адама Мальдзіса, першы том багата ілюстраванай энцыклапедыі павінен быць падрыхтаваны да канца гэтага года, а цалкам выданне ўбачыць свет у 1999 годзе. Цэнтр імя Скарыны звяртаецца да ўсіх, каму вядомыя імёны і звесткі пра незаслужана забытых суайчыннікаў за мяжой, з прапановай аб супрацоўніцтве. Кантактны тэлефон — 220-93-50.

*БелаПАН*

## Начальнікі і работнікі

**Розніца ў заробках кіраўніцтва брэсцкага завода «Цветатрон» і простых работнікаў складае ў сярэднім 10 мільёнаў рублёў.**

Пры тым, што завод працуе вельмі кепска, зарплата намесніка дырэктара складае 11,9 мільёна рублёў, а сярэдняя зарплата на заводзе — 1,74 мільёна рублёў. Да таго ж на прадпрыемстве пастаянныя праблемы з выплатай нават гэтых мізэрных грошай.

*БелаПАН*

## Хто дапаможа маладым?

**Высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі сталі «невыязнымі» ў выніку дыпламатычнага скандалу. Актывісты маладзёжных рухаў могуць не трапіць на Сусветны фестываль моладзі з прычыны банальнай адсутнасці грошай.**

Сусветны маладзёжны фестываль пройдзе з 1 па 10 жніўня ў Лісабоне, сталіцы Партугаліі. Плануецца, што ў гэтым свяце возьмуць удзел каля 6.000 маладых людзей з 170 краінаў свету, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных органаў, розных еўрапейскіх арганізацыяў, сродкаў масавай інфармацыі і г.д. На думку арганізатараў, Сусветны фестываль моладзі стане «адным з самых грандыёзных планетарных мерапрыемстваў апошніх гадоў».

За фармаванне беларускай дэлегацыі адказвае Нацыянальная Рада маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў, у якую ўваходзіць больш за 20 арганізацыяў. Аднак, паведаміла выканаўчы дырэктар маладзёжнага аб'яднання «Новая група» Вольга Нікіціна, беларуская дэлегацыя ў Лісабон можа не паехаць таму, што на гэта няма сродкаў. Нацыянальная Рада звярталася ў дзяржаўны камітэт па справах моладзі, аднак станоўчага адказу адтуль не атрымалі. На сённяшні дзень дапамогу прапанавала толькі адно турыстычнае агенцтва, якое выдзеліла ў якасці спонсарскай падтрымкі 1.500 долараў і прадаставіла аўтобус. Аднак для таго, каб усё ж паехаць на фестываль, дэлегацыі неабходна яшчэ як мінімум 4.000 долараў.

*БелаПАН*

ДАКУМЕНТ

# Шлях на Захад

## *«Чорны спіс» Еўрапейскага Саюза*

**Сёння па просьбе нашых чытачоў мы друкуем поўны спіс беларускіх чыноўнікаў, да якіх будуць прымяняцца візавыя санкцыі Еўрасаюза і іншых краінаў, што далучыліся да гэтага рашэння. Рэдакцыя атрымала спіс непасрэдна з Бруселя, дзе знаходзіцца штаб-кватэра Еўрасаюза.**

**Нагадаем, што ў адпаведнасці з рашэннем ЕС, візавыя санкцыі *«будуць прымяняцца таксама да іншых асобаў, не названых у спісе, але якія падпадаюць пад азначаныя катэгорыі»*. Як мы разумеем, дробных чыноўнікаў гэта не закране, а вось кіраўнікоў, узровень якіх адпавядае, напрыклад, рангу намесніка міністра або кіраўніка ўпраўлення, санкцыі датычаць.**

*(Спіс друкуецца ў перакладзе з англійскай мовы.)*

### Прэзідэнт і адміністрацыя прэзідэнта

1. **Аляксандр Лукашэнка**, прэзідэнт
2. **Міхаіл Мясніковіч**, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі
3. **Уладзімір Русакевіч**, першы намеснік кіраўніка адміністрацыі
4. **Іван Пашкевіч**, намеснік кіраўніка адміністрацыі
5. **Аляксандр Абрамовіч**, намеснік кіраўніка адміністрацыі
6. **Урал Латыпаў**, дарадца па знешняй палітыцы
7. **Уладзімір Каралёў**, дарадца па пытаннях пратакола
8. **Пётр Капітула**, кіраўнік аналітычнага цэнтра
9. **Віктар Кучынскі**, кіраўнік дэпартамента па гуманітарнай дапамозе
10. **Аляксандр Пласкавіцкі**, кіраўнік дзяржаўна-прававога ўпраўлення
11. **Іван Ціцянкоў**, кіраўнік справаў
12. **Аляксандр Пятроў**, кіраўнік сакратарыята
13. **Уладзімір Канабееў**, кіраўнік знешнепалітычнага ўпраўлення
14. **Віктар Шэйман**, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі
15. **Анатоль Тозік**, намеснік кіраўніка Савета бяспекі
16. **Сяргей Канцавенка**, намеснік кіраўніка Савета бяспекі

### Савет міністраў

17. **Сяргей Лінг**, старшыня Савета міністраў
18. **Уладзімір Замяталін**, намеснік старшыні
19. **Уладзімір Гаркун**, намеснік старшыні
20. **Валерый Кокараў**, намеснік старшыні
21. **Васіль Далгалёў**, намеснік старшыні
22. **Леанід Козік**, намеснік старшыні
23. **Уладзімір Казлоўскі**, кіраўнік сакратарыята прэм'ер-міністра
24. **Генрых Кумпіцкі**, кіраўнік апарата Савета міністраў
25. **Дзмітрый Маліноўскі**, прэс-сакратар прэм'ер-міністра
26. **Валянцін Сташкевіч**, кіраўнік упраўлення эканомікі
27. **Ю.Бабчонак**, аддзел навукі і новых тэхналогіяў
28. **Барыс Іваноў**, аддзел удасканалення спецыялістаў
29. **Аляксандр Карачун**, аддзел культуры
30. **Васіль Пугачоў**, кіраўнік упраўлення знешняга гандлю і міжнароднага супрацоўніцтва
31. **Іван Лемяшэўскі**, кіраўнік дарадчай групы

### Канстытуцыйны суд

32. **Рыгор Васілевіч**, старшыня Канстытуцыйнага суда

### Міністэрствы

33. **Міхаіл Марыніч**, міністр знешніх эканамічных сувязяў
34. **Альберт Дабрамудраў**, першы намеснік міністра знешніх эканамічных сувязяў
35. **Аляксей Майсейчыкаў**, намеснік міністра знешніх эканамічных сувязяў
36. **Валерый Садоха**, намеснік міністра знешняга гандлю
37. **Іван Лях**, міністр працы
38. **Дзмітрый Марач**, першы намеснік міністра працы
39. **Мікалай Шаванда**, намеснік міністра працы
40. **Мікалай Талмачоў**, кіраўнік упраўлення міжнародных зносінаў
41. **Васіль Стражаў**, міністр адукацыі
42. **Анатоль Гарнак**, намеснік міністра адукацыі
43. **Генадзь Дылян**, намеснік міністра адукацыі
44. **Георгій Бутрым**, намеснік міністра адукацыі
45. **Уладзімір Ціханаў**, кіраўнік упраўлення міжнародных зносінаў
46. **Віктар Ветраў**, міністр будаўніцтва і архітэктуры
47. **Аляксандр Сідарэнка**, намеснік міністра будаўніцтва і архітэктуры
48. **Алег Чэшко**, кіраўнік упраўлення міжнародных зносінаў
49. **Мікалай Корбут**, міністр фінансаў
50. **Мікалай Румас**, намеснік міністра фінансаў
51. **Аляксандр Галаў**, намеснік міністра фінансаў
52. **Валянцін Зорын**, міністр лясной гаспадаркі
53. **Ігар Зелянкевіч**, міністр аховы здароўя
54. **Мікалай Крысенка**, намеснік міністра аховы здароўя
55. **Эдуард Глацкоў**, кіраўнік упраўлення міжнародных зносінаў
56. **Валерый Філонаў**, намеснік міністра
57. **Анатоль Кажамякін**, галоўны эпідэміёлаг
58. **Валянцін Вялічка**, міністр па справах СНД
59. **Васіль Шаладонаў**, намеснік міністра па справах СНД
60. **Пётр Крэчка**, намеснік міністра па справах СНД
61. **Пётр Казлоў**, міністр гандлю
62. **Сяргей Есін**, кіраўнік упраўлення знешняга гандлю
63. **Анатоль Харлап**, міністр прамысловасці
64. **Уладзімір Галко**, намеснік міністра прамысловасці
65. **Валянцін Агалец**, міністр унутраных справаў
66. **Пётр Халюта**, кіраўнік дэпартамента па барацьбе з наркотыкамі
67. **Уладзімір Палякоў**, кіраўнік упраўлення міжнародных зносінаў
68. **Уладзімір Левітанаў**, кіраўнік Беларускага бюро Інтэрпола

# Страсти вокруг страстей

## *Название пресс-конференции звучало довольно громко: «Нравственное здоровье нации»*

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



Если уж с демократией и правами человека дела у нас обстоят крайне паршиво, то режим решил быть «впереди планеты всей» хотя бы в борьбе с порнографией. Недавно Лукашенко подписал указ о присоединении Беларуси к соглашению по борьбе с распространением порнографических изданий, заключенному аж в 1910 году. Очень своевременно и актуально. Почему бы еще не присоединиться, скажем, к решению Третьего Латеранского собора 1179 г. об учреждении инквизиции и не начать сжигать на кострах инакомыслящих? Впрочем, по этому поводу могут возникнуть возражения у православных иерархов, мнением которых Лукашенко очень дорожит. Как бы там ни было, именно этот указ Лукашенко и стал информационным поводом для пресс-конференции «о нравственном здоровье нации», в которой приняли участие члены Республиканской экспертной комиссии по предотвращении порнографии, насилия и жестокости, а также прочие лица, озабоченные этими же проблемами.

Судя по всему, Беларусь вознамерилась показать остальному миру пример, как рьяно следует соблюдать соглашение 1910 года. А вот растленный Запад вместе с Россией, подобно Паниковскому, нарушают конвенцию. За что эксперт нашей Республиканской комиссии Вячеслав Грибайло и сделал им выговор: *«Многие псевдодемократические страны убрали из своих уголовных кодексов статьи о порнографии, в результате на нас валом повалила порнографическая продукция»*. В самой Беларуси такого рода продукции производится немного, в основном она поступает из Германии, США и России. Причем наши эксперты зачастую готовы признавать порнографией то, что в вышеупомянутых странах таковой не считается. Например, товарищ В.Грибайло гневно обрушился на одного российского профессора, определившего как «откровенную эротику» видеофильмы, которые, по мнению нашего эксперта, несут в себе *«содержательные признаки порнографии»*. На вопрос, в чем заключается разница между этими понятиями, Грибайло дал определение порнографии: *«показ возбужденных гениталий в обнаженном виде в процессе их действия»*.

Это ж куда надо поместить камеру и какой ракурс взять, чтобы показать такое? На мой дилетантский взгляд, снять подобную штуку довольно затруднительно. Но то ли эта трудность преодолима, то ли комиссия пользуется этим определением слишком вольно, — однако, как сообщил председатель комиссии Ричард Смольский, *«абсолютное большинство видеокассет, журналов, карт и всего другого, что попадало в экспертную комиссию, получало оценку, подтверждающую, что это — порнография»*. С 1992 г., когда была создана комиссия, она приняла полторы тысячи заключений.

Правда, комиссия отнюдь не выставляла себя врагом эротики в любых проявлениях. Тот же Ричард Смольский подчеркнул: *«Проблема порнографии упирается прежде всего в проблему таланта. Хороший эротический фильм ничуть не хуже, например, чем хорошая мелодрама, и снимать такой фильм не легче, чем фильмы других жанров»*. Правда, надо заметить, что за плохие мелодрамы не сажают в тюрьму, а вот за «плохую эротику» — запросто: большинство экспертных заключений у комиссии запрашивает следствие по статье Уголовного кодекса, карающей за распространение порнографии.

На пресс-конференции заходила речь и о реальных проблемах. Например, об отсутствии программы сексологического воспитания, в результате чего подростки не подготовлены к нормальному восприятию эротической продукции. Эксперт В.Грибайло рассказал о производстве в Беларуси порнографических видеофильмов, в которых снимаются 13—14-летние подростки. Начальник Государственного регистра киновидеофильмов Вячеслав Шенько отметил: *«Наша задача — как можно больше оградить детей от просмотра фильмов, предназначенных для взрослых»*. Действительно, недопустимо, чтобы дети были потребителями, и тем паче "героями" порнографических «произведений». И в этом плане деятельность комиссии и в самом деле полезна и необходима. Но подростки — это одно, а взрослые — совсем другое. И если взрослые люди желают платить деньги за созерцание гениталий взрослых же людей, а последние готовы оказать им такую услугу — то кому какое дело до того, возбуждены ли эти гениталии и находятся ли они «в процессе действия»? Должно ли государство проявлять к этому свой нездоровый интерес? Такие вещи могут не нравиться с эстетической или с моральной точки зрения — но допустимо ли их преследовать с точки зрения правовой?

Председатель Р.Смольский разводит руками: *«У нас в Уголовном кодексе существуют статьи, которые преследуют за изготовление и распространение порнографии, и с этим все связано. Это уже вне компетенции нашей комиссии, это компетенция законодателей»*.

Впрочем, некоторые участники пресс-конференции говорили о том, что следует ставить задачу не запретить, а локализовать порнографию — тогда несравнимо легче будет проследить за соблюдением ограничений, касающихся тех же подростков. Но об этом говорилось только в кулуарах — ведь государственная политика, к сожалению, иная. Как и в остальных сферах: «Не пущать!» — и весь сказ. Почему-то режим и не нашел ничего лучшего, как, «пыль веков от хартий отряхнув», присоединиться к этим хартиям (которые, собственно, нигде уже не соблюдаются). Понимание проблемы порнографии у наших властей — где-то на уровне вековой давности.

# На Чарнобыльскай АЭС неспакойна

**Пазаўчора на трэцім блоку Чарнобыльскай АЭС адбыўся збой у сістэме кіравання рэактарам.**

У выніку у адным з паліўных каналаў адбылася перагрузка, і давялося знізіць магутнасць усяго рэактара і вытворчасць электраэнергіі. Гэта ўжо не першы інцыдэнт за апошнія дні: 11 ліпеня быў зафіксаваны рост радыеактыўнасці ў герметычных памяшканнях рэактарнага аддзялення. Аднак у міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Украіны сцвярджаюць, што радыяцыйная сітуацыя вакол АЭС застаецца без зменаў.

Тым часам дзякуючы фінансавай дапамозе ЗША і Канады на Чарнобыльскай АЭС завершаны рамонт вентыляцыйнай трубы, якая магла стаць прычынай аварыі на «саркафагу». Гэтая труба атрымала пашкоджанні яшчэ падчас выбуху рэактара ў 1986 годзе. Агульны кошт рамонту склаў каля 2,25 млн. долараў, з якіх 1,8 млн. выдзелілі ЗША і Канада. Цяпер стан трубы адпавядае міжнародным стандартам, яна здольная вытрымліваць смерчы і землятрусы сілай 5—6 балаў, тэрмін яе эксплуатацыі — сорак гадоў.

*БелаПАН — УНІАН*

# Смерць як выратаванне

**У Літве шырока абмяркоўваецца магчымасць прыняцця закона аб эўтаназіі — смерці па жаданні чалавека. Прычынай стаў нядаўні выпадак, калі маці, будучы не ў стане бачыць пакуты 18-гадовага сына, вырашыла спыніць яго і сваё жыццё.**

Яшчэ некалькі месяцаў таму Шарунас Славінскас быў паўнацэнным закаханым юнакам. Аднак калі дзяўчына адмовіла яму — абліўся бензінам і падпаліў сябе. Пасля пяці месяцаў лячэння засталося слабае падабенства чалавека: не было вушэй, лобавай часткі чэрапа, не было твару, рук. Яшчэ на працягу двух месяцаў ён цярпеў дзікі боль. І ўсё часцей прасіў маці праводзіць яго ў той свет. Нарэшце яна гэта зрабіла.

Хірургі, якія лячылі хлопца, не лічаць учынак маці, якая ўвяла сыну смяротную ін'екцыю, забойствам. Сапраўды, у такіх выпадках эўтаназія, відаць, апраўданая.

Тым не менш пракуратура ўзбудзіла справу па факце забойства Жывіле Славінскене свайго сына. Цяпер праводзіцца яе псіхічная экспертыза. Хаця пры знаёмстве з дэталямі справы пракуроры прызналі, што закон аб эўтаназіі ў такіх выпадках быў бы апраўданы, але яны кіруюцца дзеючымі законамі. Жанчына выжыла, бо не трапіла сабе ў вену, лекарам удалося выратаваць яе жыццё. Блізкія лічаць, што яна выканала місію, на якую не адважыліся ўрачы.

**Таццяна КАМОРСКАЯ**

# Пачаўся сезон палявання на Маўродзі

**Следчым камітэтам МУС Расіі за здзяйсненне махлярства ў асабліва буйных памерах аб'яўлены вышук былога кіраўніка акцыянернага таварыства МММ Сяргея Маўродзі.**

Ён прыцягваецца па частцы 3 артыкула 147 Крымінальнага кодэкса РФ — махлярства. Як бачым, не прайшло і трох гадоў пасля краху гэтай самай буйной фінансавай піраміды ў Расіі, як праваахоўныя органы пачалі шукаць махляра...

**Б.П.**

# для іх закрыты

**69. Уладзімір Князеў**, намеснік кіраўніка бюро

**70. Генадзь Варанцоў**, міністр юстыцыі

**71. Аляксандр Сазонаў**, міністр прадпрымальніцтва і інвестыцыяў

**72. Аляксандр Сасноўскі**, міністр культуры

**73. Уладзімір Рылатка**, першы намеснік міністра культуры

**74. Б.Святлоў**, намеснік міністра культуры

**75. Іван Шакола**, міністр сельскай гаспадаркі

**76. Юрый Мароз**, першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі

**77. Аляксандр Старавойтаў**, намеснік міністра сельскай гаспадаркі

**78. Міхаіл Русы**, міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя

**79. Ігар Войтаў**, першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя

**80. Іван Кенік**, міністр па надзвычайных сітуацыях

**81. Ігар Ралевіч**, намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях

**82. Уладзімір Ганчарэнка**, міністр сувязі і інфарматыкі

**83. Васіль Валашчук**, намеснік міністра сувязі і інфарматыкі

**84. Вольга Даргель**, міністр сацыяльнай абароны

**85. Мікалай Ананьеў**, міністр спорту і турызму

**86. Міхаіл Шаршавіцкі**, намеснік міністра спорту і турызму

**87. Уладзімір Нічыпаровіч**, міністр статыстыкі і аналізу

**88. Аляксандр Лукашоў**, міністр транспарту і камунікацыяў

**89. Васіль Халоўскі**, першы намеснік міністра транспарту і камунікацыяў

**90. Анатоль Лугаўцоў**, намеснік міністра транспарту і камунікацыяў

**91. Сяргей Кучынскі**, кіраўнік упраўлення міжнародных зносінаў

**92. Аляксандр Чумакоў**, міністр абароны

**93. Міхаіл Казлоў**, першы намеснік міністра, начальнік Генеральнага штаба

**94. Алег Яцкевіч**, намеснік начальніка Генеральнага штаба

**95. Пётр Рагашэўскі**, намеснік начальніка Генеральнага штаба

**96. Уладзімір Яхніцкі**, намеснік начальніка Генеральнага штаба

**97. Васіль Новак**, міністр прыватызацыі і дзяржмаёмасці

**98. Васіль Давыдзенка**, намеснік міністра прыватызацыі і дзяржмаёмасці

**99. Васіль Некрашэвіч**, намеснік міністра прыватызацыі і дзяржмаёмасці

**100. Уладзімір Шымаў**, міністр эканомікі

**101. Барыс Батура**, міністр камунальнай гаспадаркі

## Дзяржкамітэты

**102. Уладзімір Мацкевіч**, старшыня КДБ

**103. Леанід Ерын**, першы намеснік старшыні КДБ

**104. Генадзь Наркевіч**, намеснік старшыні КДБ

**105. Сцяпан Сухарэўка**, намеснік старшыні КДБ

**106. Вікенцій Макарэвіч**, в.а.старшыні мытнага камітэта

**107. Аляксандр Дзеравяшка**, намеснік старшыні мытнага камітэта

**108. Мікалай Дзямчук**, старшыня падатковага камітэта

**109. Аляксандр Пазняк**, старшыня камітэта па справах моладзі

**110. Рыгор Кісель**, старшыня тэлерадыёкампаніі

**111. Аляксандр Паўлоўскі**, старшыня камітэта памежных войскаў

**112. Аляксандр Білык**, старшыня камітэта па справах рэлігіяў

**113. Георгій Кузняцоў**, старшыня камітэта па геадэзіі і картаграфіі

**114. Уладзімір Ярмолік**, старшыня камітэта па дзяржаўных матэрыяльных рэзервах

**115. Леў Дубовік**, старшыня камітэта па энергазберажэнні

**116. Аляксандр Міхальчанка**, старшыня камітэта па архівах і дакументацыі

**117. Валерый Кудашоў**, старшыня патэнтнага камітэта

**118. Валерый Карашкоў**, старшыня камітэта па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі

**119. Юрый Пакумейка**, старшыня камітэта па гідраметэаралогіі

**120. Анатоль Дастанка**, старшыня вышэйшай атэстацыйнай камісіі

**121. Віктар Гайсёнак**, старшыня камітэта па навуцы і тэхналогіях

**122. Уладзімір Байкоў**, першы намеснік старшыні камітэта па навуцы і тэхналогіях

**123. Эдуард Матуліс**, намеснік старшыні камітэта па навуцы і тэхналогіях

## Міністэрства замежных справаў

**124. Іван Антановіч**, міністр

**125. Сяргей Мартынаў**, першы намеснік міністра

**126. Мікалай Бузо**, намеснік міністра

**127. Ніна Мазай**, намеснік міністра

**128. Уладзімір Герасімовіч**, намеснік міністра

**129. Інэса Плескачэўская**, кіраўнік службы дзяржаўнага пратакола

**130. Яўген Грэцкі**, намеснік кіраўніка службы дзяржаўнага пратакола

# Расійскі горад хоча ў Эстонію

**Жыхары Іван-Горада, які знаходзіцца ў Расіі каля самай эстонскай мяжы, накіравалі ліст прэзідэнту Ельцыну, у якім выказваюць жаданне далучыцца да Эстоніі.**

Ліст падпісалі 5% жыхароў горада, што, паводле расійскіх законаў, дастаткова для правядзення мясцовага рэферэндуму.

Рэч у тым, што ўсе камунальныя службы Іван-Горада знаходзяцца па той бок мяжы — у эстонскай Нарве. Сама па сабе мяжа для камунікацыяў не перашкода, але ж Іван-Горад не ў стане аплачваць камунальныя паслугі, як і многія іншыя расійскія гарады. Камунальнікі з Нарвы ў выніку зьмяншаюць падачу вады, і яна цячэ з кранаў толькі на першых паверхах. У мінулым годзе Іван-Гораду дапамог урад Эстоніі, выдзеліўшы 3 млн. крон на аплату камунальных паслугаў. Варта нагадаць, што да 1944 г. Іван-Горад знаходзіўся ў складзе Эстоніі.

**Вінцэсь ЛІПСКІ**

## Ураган схапіў жанчыну

**Смерч, які пранёсся ў суботу над Крупскім раёнам, прынёс шматлікія разбурэнні і моцна пакалечыў 47-гадовую жыхарку вёскі Узнацк.**

«Смерч пранёс жанчыну па паветры прыкладна дзесяць метраў і пасля кінуў яе вобзем. Цяпер кабета знаходзіцца ў рэанімацыі са шматлікімі пераломамі і страсеннем мозгу», — паведаміў начальнік штаба грамадзянскай абароны Мінскай вобласці палкоўнік Уладзімір Кузькін. Па ягоных словах, у вёсках Узнац, Узнацк і Хацюхова сарваныя дахі з 24 дамоў і дзвюх малочнатаварных фермаў, майстэрні і шматлікіх гаражоў, разбураныя два цялятнікі.

Як паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны Крупскага раёна, «аднаўленне вытворчых аб'ектаў пакуль не праводзіцца, бо няма будаўнічых матэрыялаў і грашовых сродкаў». Справіліся толькі аднавіць тэлефонную сувязь і направіць парваныя лініі электраперадач.

*БелаПАН*



## Украінцы выбіраюць вёску

**За апошнія пяць гадоў насельніцтва Украіны скарацілася на 1,7 мільёна чалавек.**

Цяпер на Украіне жыве 50,5 мільёна чалавек, прычым 20% — гэта людзі ва ўзросце 60 гадоў і старэйшыя. Сярэдняя працягласць жыцця мужчын на Украіне складае 62,3 года, жанчын — 73,2. Па гэтых паказчыках Украіна знаходзіцца на ўзроўні такіх краінаў, як Марока, Туніс, Кыргызстан, адстаючы ад краінаў Заходняй Еўропы на 9 гадоў, а ад Японіі — на 12.

Па звестках украінскай Акадэміі навук, найлепшая дэмаграфічная сітуацыя сёння ў заходніх абласцях Украіны, у прыватнасці, у Закарпацкай вобласці. Найгоршая — на ўсходзе краіны, асабліва ў Данецка-Запарожскім рэгіёне.

За апошнія гады на Украіне кардынальна змяніўся характар унутранай міграцыі. Калі раней людзі пераязджалі з вёскі ў горад, то з прычыны пагаршэння сацыяльна-эканамічных умоў цяпер напрамак міграцыі змяніўся: усё больш гараджанаў перабіраюцца жыць на вёску. Прычым з сацыялагічных даследаванняў вынікае, што галоўны матыў перасяленцаў — «на вёсцы лягчэй пракармiцца».

*БелаПАН — УНІАН*

## Наркотыкі вазілі афіцэры

**Грандыёзны скандал адбыўся ў Галандыі: на мінулым тыдні была раскрытая сетка наркагандляроў, на чале якой стаялі ваенныя.**

Арыштаваныя два афіцэры, дзесяць іх падначаленых. Яны арганізавалі дастаўку з вострава Кюрасао 355 кілаграмаў какаіну ваенным самалётам, місія якога была якраз у патруляванні Антыльскіх астравоў з мэтаю выяўлення суднаў, якія перавозяць наркотыкі. Нідэрландскія газеты цяпер пішуць аб поўнай маральнай дэградацыі каралеўскага войска. У дыскусію ўступіў нават прэм'ер-міністр краіны Вім Кук, які заклікаў не рабіць агульных высноваў і нагадаў, што не трэба па адной паршывай авечцы меркаваць аб усім стадзе.

**Б.П.**

# Живите долго!

*Каждый может выиграть войну со временем*

Во времена Римской империи средний возраст ее подданных, рубившихся в кровавых сечах с варварами и карфагенянами, не превышал 22 лет.

В лихую годину средневековья, как это ни странно, «гомо сапиенс» стал жить дольше — до 33 лет.

Когда родился Пушкин, его современники доживали в основном до 38; поэт был в этом отношении, увы, настоящим героем своего времени.

Когда в самом конце XIX века торжественно открывали Эйфелеву башню, усредненный показатель бренного людского существования равнялся 43 годам. Нынче, на излете XX века, земляне могут похвастаться тем, что дотягивают до 76 (в Великобритании и США) и даже до 80 лет (Япония).

Ученые утверждают, что в 2020-м срок жизненного пути человека может увеличиться до 140 лет и зим.

Войну против времени ведет все живое, люди — в первых рядах бойцов. Важным прорывом на этом фронте стало сделанное недавно американскими учеными открытие. Биологи обнаружили энзим, отвечающий за процесс старения клетки. Открытие вселило реальную надежду на возможность продления жизни, если не до бесконечности, то по крайней мере на несколько десятков лет. Скептики, правда, считают, что оптимисты сильно преувеличивают значение этого химико-биологического откровения. Однако в совокупности с очень правильным образом жизни оно действительно может отодвинуть надвигающуюся старость.

Итальянский геронтолог Клаудио Вергани издал недавно свои «10 заповедей», которым должен следовать человек, если хочет жить долго и полноценно.

***Итак, нужно:***

**— Раз и навсегда отказаться от курения.** Курильщики, в том числе и «пассивные», живут на 5-8 лет меньше. Если б Колумб знал, сколько болезней принесет табак на наш континент, он бы наверняка проплыл мимо...

**— Употреблять алкоголь.** Но умеренно, 250 граммов вина в день для «смазки» кровеносных сосудов, советует доктор.

*«In vino veritas»*, — говорили древние римляне, потому что не знали биохимии и не могли сказать, что же в вине есть в действительности. Однако лечебные свойства вина знали и использовали в древности Гиппократ, Гален, Цельсиус и многие другие. Современной терапии тоже не чужда практика энотерапии, то есть винолечения. Известно, что вином иногда можно заменить сильнодействующие препараты, а иной раз оно помогает там, где медикаменты бессильны. Легкие белые вина хороши для поддержания ослабленной сердечной деятельности, а при атеросклерозе — биче нашего времени, безвременно сводящем в могилу все большее количество жителей цивилизованного мира, например, показаны сухие белые вина с минеральными водами. Даже разбавленное наполовину водой виноградное вино способно уберечь организм от множества инфекций. Еще Платон сказал, что вино — молоко стариков. Оно помогает от бессонницы (но не более 1/4—1/2 стакана), дает приятный покой, рассеивает страхи, больные меньше жалуются на возраст. В вине содержится богатейший набор полезных веществ, снижающих кровяное давление и тонизирующих нервную систему. Так что пейте на здоровье, на забывая мудрые слова врача и философа Парацельса: «Лишь мера определяет, быть веществу вредным или полезным. Мера в употреблении его. Мера в борьбе с ним».

**— Предусмотреть** в распорядке дня хотя бы получасовую **прогулку пешком ежедневно**. Еще лучше — гонять на велосипеде, плавать в бассейне или возомнить себя знатным теннисистом — прийти на корт не поздно ни в каком возрасте.

— Стоит **позаботиться о весе** и помнить о волшебном числе «26». Его получают путем деления веса в килограммах на квадрат роста в метрах. Плохо, когда есть отклонения от искомого результата как в меньшую, так и в большую сторону.

— Уменьшить (а в идеале — исключить) животные жиры в рационе.

Пациентам Клаудио Варнеги на его родине об этом даже не надо напоминать, а вот нам есть над чем призадуматься.

Давно замечено, что Италию и Португалию, Испанию и Грецию, а также Алжир и Марокко сердечно-сосудистые заболевания, можно сказать, не любят и обходят стороной. По сравнению с другими странами, где атеросклероз и его грозные осложнения — инфаркт миокарда, инсульт — давно стали болезнями века, в этой шестерке они редкость. Ученые заинтересовались столь необычным фактом и установили: жители благополучных стран «сидят на диете». Нет, не на той строгой, как люди, мечтающие похудеть. У них своя, особая система питания.

Это вдоволь фруктов и овощей, плодов (прежде всего оливок и маслин, которые входят в состав почти любого блюда), хлеба грубого помола. Относительно много рыбы и морепродуктов. Мало мяса. И практически полное отсутствие животных жиров. Их едва ли не целиком заменяет оливковое масло.

Еще в прошлом веке врачи назначали ложку оливкового масла натощак как желчегонное и легкое слабительное. Помогает оно и при хронических заболеваниях печени. Сегодня уже научно доказано, что оливковое масло способствует нормализации жирового обмена, его рекомендуют после резекции желчного пузыря. Тот, кто с ним на «ты», не жалуется на здоровье.

**— Поглощать** повсеместно **овощи и фрукты** и держать на почтительном расстоянии «белую смерть» — сахар и соль.

**— Загорать с умом**, так как солнечное излучение не только сушит кожу, но и «заряжает» организм вреднейшим ультрафиолетом.

**— Регулярно проходить диспансеризацию**. Любую болезнь легче предупредить, чем лечить. Но уж если она пришла, мы должны захватить ее в самом начале, избегая ненужных последствий запущенных случаев.

**— Исключить из диеты продукты, содержащие натрий**, так как он приводит к кристаллизации сосудов и повышает давление.

**— Употреблять воду только хорошего качества**. Не всем нам доводится жить в Альпах у живительного кристального источника. Поэтому на последней рекомендации доктора хочется остановиться особо.

Драгоценная вещь — вода. Она ходит в мире по кругу, льется на голову, бежит из крана, мы ездим к ней отдохнуть, пьем ее с утра до вечера и, в конце концов, сами из нее состоим на 76% и не ощущаем тех бесчисленных процессов собственной жизнедеятельности, которые без воды просто невозможны. Не ощущаем, пока молоды и здоровы. Пока вода, которую мы пьем, полноценна, потому что, как свидетельствует всемирная статистика, **30% всех болезней связаны с неудовлетворительным качеством питьевой воды.**

Удивительно, что люди замечают сроки хранения продуктов, но абсолютно легкомысленно пьют воду, о качестве которой не имеют никакого представления. Она может иметь неприятный запах или вкус, но даже если этого нет, в ней могут находиться сотни потенциально опасных для человеческого организма веществ без вкуса и запаха.

У нас статистика о последствиях употребления некачественной, неочищенной воды отсутствует, и о масштабах проблемы можно только догадываться, хотя наши врачи уже давно бьют тревогу. Даже если бы в Минске работали современные очистные сооружения (но столица — еще не вся Беларусь), не надо забывать две вещи: первое — это плохое качество труб, по которым вода многие километры течет к вашему дому, второе — природный ее состав, свойственный местности, где вы живете. В обоих случаях можно попенять на судьбу, а можно и постараться решить обе проблемы. Речь идет об очистке питьевой воды в домашних условиях.

Я вообще бы выдвинула лозунг: бытовой очиститель воды — в каждый дом! Однако было бы большим заблуждением думать, что все продающиеся у нас фильтры имеют одинаковую эффективность. Кроме того, надо ясно представлять, от каких именно вредных веществ необходимо избавиться: это покажет специальный анализ. Сделайте его, даже если вам кажется, что вода из скважины или колодца у вас в коттедже или на даче вкусна, чиста и «совсем не как из-под крана в городе». Пестициды, нитраты, соли тяжелых металлов и микроорганизмы и вправду глазу не видны, но это совсем не значит, что их количество в вашей воде не превышает опасной нормы.

**Татьяна ГОСТЮХИНА**

## Даты і лёсы

### *15 ліпеня*

**1410.** 40 тысячаў крыжакоў было забіта, 15 тысячаў трапілі ў палон падчас бітвы пры Грунвальдзе. Гісторыкі маюць версію, што ад канчатковага разгрому Тэўтонскі ордэн выратавала палітыка вялікага князя Вітаўта, які вырашыў на ўсялякі выпадак пакінуць ордэн як процівагу Польшчы.

**1795.** Гімн усіх рэвалюцыянераў і інсургентаў «Марсельеза» быў зацверджаны нацыянальным гімнам Францыі.

**1876.** У Шчучынскім раёне нарадзілася беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка (Алаіза Пашкевіч). Была ініцыятарам стварэння ў Мінску першага дзіцячага прытулку.

**1933.** Амерыканскі пілот Вілі Пост вылецеў у першае адзіночнае падарожжа вакол свету, на якое спатрэбіўся тыдзень. Дакладна праз 5 гадоў мультымільянер Говард Х'юз усталяваў новы рэкорд: 3 дні 19 гадзінаў 14 хвілінаў.

**1938.** У Гомелі адчыніўся Дзяржаўны тэатр лялек (у 1950 г. ён пераехаў у Мінск).

**1940.** У г.Манісці, штат Мічыган, памёр ад заражэння крыві найвышэйшы чалавек у свеце Роберт Першынг Ўодлоў. Ягоны рост дасягаў 272 см, а размах рук — 288 см. Для пахавання гіганта зрабілі труну даўжынёй 328 см і шырынёй 81 см. Амаль як пакой у савецкай «хрушчоўцы».

**1990.** Падчас сустрэчы М.Гарбачоў і канцлер ФРГ Коль дамовіліся аб уз'яднанні Германіі, што азначала і ўз'яднанне Еўропы.

**1996.** На ганку ўласнай вілы ў Маямі загінуў сусветна вядомы мадэльер Джані Версачэ (ягоны пышны стыль асабліва падабаўся італьянскім мафіёзі і «новым рускім»). Праз некалькі дзён забойца-маньяк, якога ўзяла ў аблогу паліцыя, застрэліўся. Пра гэтую гісторыю зняў свой чарговы і, кажуць, вельмі прыбытковы фільм Менахем Голан — амерыканскі рэжысёр, які, дарэчы, зрабіў 5 карцін на «Беларусьфільме».

### *16 ліпеня*

**622.** Прарок Мухамед уцёк ад пераследу паганцаў з Мекі ў Медыну. Мусульмане шануюць гэты дзень як пачатак новай эры і, адпаведна, святкуюць Новы год.

**1661.** Стакгольмскі банк выпусціў першыя ў свеце банкноты. Раней усе грошы былі металёвыя.

**1867.** Француз Жазэф Манье запатэнтаваў жалезабетон.

**1918.** Бальшавікі расстралялі ў Екацярынбургу апошняга цара Расіі Мікалая II, ягоную сям'ю, доктара, чэлядзь і нават сабакаў.

**1941.** Урад БССР пераехаў з Лёзна ў Гомель.

**1945.** Пачалася эра ядзернай зброі: у штаце Нью-Мексіка адбылося выпрабаванне першай атамнай бомбы, створанай пад кіраўніцтвам Роберта Апенгеймера.

**1950.** На футбольны матч у Рыо-дэ-Жанейра сабралася рэкордная колькасць гледачоў — 205 тысячаў чалавек. Уругвай перамог Бразілію з лікам 2:1 і ў другі раз атрымаў тытул чэмпіёна свету.

**1956.** Прэзідыум ВС СССР выдаў указ, паводле якога вярталіся грамадзянскія правы чачэнцам, інгушам і карачаеўцам, выселеным падчас вайны ў Сярэднюю Азію. Аднак вяртацца на Каўказ ім было забаронена.

**1988.** Даўжэй за ўсіх звяроў пражыў слон Раджа, які памёр у гэты дзень у 81-гадовым узросце. Тысячы людзей з усёй Шры-Ланкі прыйшлі аплакаць яго ў будыйскі храм г.Кандзі, дзе Раджа служыў 57 гадоў: падчас урачыстых цырымоніяў на ім вазілі куфэрак з зубам самога Буды.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1213 Нумар падпісаны ў друк 14.07.98 (15:00) Наклад — 19.770